Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага нум. 40 грошы.

# Беларуская Борць

Адрыс Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятпіцы
ад 10 до 14 гадз.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

№ 2—3

1937 г.

ЗЬМЕСТ:

Беларуская Борць

№ 2—3 САКАВІК—КРАСАВІК 1937 г. ГОД IV

# НАШЫ БАЛЯЧКІ

Падвышка цэн на прадукты земляробскае гаспадаркі, павялічэньне запатрабаваньня і прадукцыі ў некатарых галінах фабрычнае прамысловасьці, зменшаньне ў зьвязку з гэтым безрабоцьця, вось тыя зьявы, якімі адзначаецца гаспадарскае жыцьцё народаў у апошнія месяцы. На падставе гэтага ўсе робяць вывад, што надходзіць палепшаньне.

Пазволім сабе і мы затрымацца крыху над гэтым пытаньнем, г. зн. паколькі сучасная направа агульна-гаспадарчай сытуацыі адаб'ецца на палажэньні дробнага сялянства. Пакуль-што сялянін слаба адчувае яе карысьці. Падвышка цэн на збажовыя прадукты адбіваецца на палажэньні селяніна хутчэй ад'емна, бо большасьць сялянства ня толькі ня мае запасаў для продажы, але частка ўжо ад паловы зімы змушана бывае купляць хлеб. Але ня ў гэтым справа. Разгледзім, што варожыць селяніну, пры сучасным яго палажэньні, гэтая направа ў бліжэйшай будучыне. І тут ня прыходзіцца спадзявацца на вялікшыя і значныя карысьці. Аднэй з галоўных прычынаў гэтага зьяўляецца тое, што значная большасьць сялянскіх гаспадароў належыць да катэгорыі г. зв. „карлаватых", якія ня могуць выжывіць нават сям'і селяніна. Рост насельніцтва вёскі, частыя сямейныя раздзелы ўвесь час разьдрабляюць усё больш і больш сялянскае землеўласьніцтва і яшчэ больш павялічываюць лік несамавыстарчальных гаспадарак. У зьвязку з гэтым павялічываецца і лік безработных вёскі, якія зьяўляюцца толькі спажыўцамі таго дабра, якое магло-б даць які небудзь даход.

Другой прычынай, якая стаіць на перашкодзе да паправы быту селяніна, зьяўляецца вельмі слаба разьвітая прамысловасьць нашага краю, якая толькі разам з рамяслом магла-бы затрудніць безработных вёскі і палягчыць палажэньне астаўшыхся на зямлі. Нажаль мы ня можам пахваліцца патрэбнай колькасьцю фабрык і рамесьніцкіх варштатаў працы. Нават у галіне спажывецкай прамысловасьці мы ня маем у дастатачнай меры прадпрыемстваў, якія перарабляюць прадукты земляробства ў прадукты спажыцьця. Прычынаю слабага разьвіцьця прамысловасьці зьяўляецца адсутнасьць патрэбных дзеля гэтага капіталаў. Адсутнасьць капіталаў стаіць на перашкодзе ў палепшаньні культуры глебы і гаспадаркі.

Вось тыя прычыны гаспадарчай натуры, якія не варожаць селяніну-земляробу паправы яго быту, яго бяды пры сучасным палепшаньні агульна-гаспадарчай сытуацыі.

Але ня толькі яны адныя. Ня менш страшным зьяўляецца і нізкая роўня асьветы наагул, а асабліва асьветы земляробскай. Маем шмат поўных анальфабэтаў і ня

менш поўанальфабэтаў, г. зн. такіх, якія ўмеюць толькі чытаць. Далучаецца да гэтага і г. зв. паўторны анальфабэтызм, калі людзі забываюць чытаць і пісаць, бо ня маюць практыкі.

У сучасных варунках агульнае і земляробскае тэхнікі і навукі немагчыма падвысіць даходнасьці земляробства бяз гаспадарчага ўзгадаваньня шырокіх масаў селянства.. Недахоп-жа самай пачатковай асьветы ня дае магчымасьці разгарнуць гэтае справы.

Асьветная балячка зьяўляецца можа больш важным дзейнікам у справе палепшаньня быту селянства, чым справы чыста гаспадарчыя.

Вось тыя галоўныя прычыны, якія не дазваляюць разлічываць на направу быту селянства ў сучасных варунках.

*М. Манцэвіч.*

## Пчалярства

# Щто трэба ведаць, купляючы пчолы.

Хто хоча завясьці пчолы, лепш зробіць, купляючы вясной сям'ю з гняздом і вульлём, г. зв. цэлую „калоду", чым купляючы летам рой. Праўда, што рой таней каштуе, але затое яго найчасьцей трэба падкарміць на зіму, а купленая вясной калода можа даць рой, а нават крыху мёду,

Купляць пень у сваей вёсцы, або блізкім да яе суседзтве можна толькі рана вясной, пакуль пчолы не абляцеліся, бо інакш вернуцца на старое мейсца і згінуць.

Пазьнейшай вясной найлепш купляць у мяйсцовасьці адлеглай ад сябе на 3—4 клм. і перавязьці ўночы або ў часе дажджу.

Купляючы, трэба перадусім запэўніцца, што пчолы здаровыя і што ў даным пчальніку наагул не хварэлі.

Калі ў пчаляра шмат стаіць парожніх вульлёў, то трэба зьмеркаваць чаму гэта так? Можа пчолы павыміралі ад якой небудзь хваробы? Гэта нятрудна пазнаць, агледзіўшы старанна вульлі і кускі астаўшайся вашчыны. Калі на сьценцах вульлёў ёсьць сьляды ляксы, або калі ящчэ горш: у кусках вашчыны ёсьць сьляды замёршай чарвы або астаткі цёмна-бурай масы, то ўжо ў гэтым пчальніку лепш пчол ня купляць.

Але калі ў пчаляра пчальнік у парадку: вульлёў пустых мала, вашчына запасная чыстая, здаровая, не папэцканая, то там купляць можна сьмела.

Выбіраць сям'ю найлепш у пагодны, цёплы дзень, калі пчолы лётаюць. Тая сям'я будзе добрая, з якой пчолы добра йдуць у поле і нясуць назад пяргу. Выбраную сям'ю трэба загадзя прыгатаваць да перавозкі. Калі яна знаходзіцца ў звычайным стаяку ці лежаку (не рамовым), то трэба толькі зазначыць палажэньне плястраў, каб пасьля, кладучы на воз, даць ім напрамак: кантамі ўгару.

У вульлях рамовых рамкі трэба замацаваць, каб яны ня рухаліся.

Перавозячы пчолы ў красавіку

і ў траўні гняздо трэба расшырыць, выняць уцяпленьне і пустое мейсца запоўніць запасовымі рамкамі.

Перавозячы пазьней, у чэрвені і ліпні, калі бывае ўжо горача, трэба вулей звэнтыляваць Дзеля гэтага выймаецца падушку ці маты, а на столь даецца драцяная сетка.

І вясной і летам вылет зацягіваецца сеткай.

Воз павінен быць добра вылажаны саломай сысподу і з бакоў, каб вульлі стаялі на мяккім і бакамі ня стукаліся аб драбіны.

Вульлі трэба ставіць так, каб рамкі стаялі рабром да драбіны.

Пастаўленыя на воз вульлі добра абвязаць, каб не калыхаліся і адзін аб адзін ня стукалі.

*З. В.*

# Дзьве маткі ў вадным вульлі.

У нямецкім пчалярскім часапісе „*Bienen Vater*“ (№ 5, 1935 г.) знаходзім цікавую зацемку аб перазімоўцы дзьвёх матак у вадным вульлі.

Нейкі Язэп Зігль у пачатку ліпня 1933 г. меў вулей бяз маткі. 5 ліпня 1933 г. Зігль упусьціў туды маладую, заплодненую матку. У часе перагляду (14 ліпня) ня было ні чарвы, ні яечак, а і ўпушчанай туды маткі ён не знайшоў. Думаючы, што яе выкінулі пчолы, Зігль упусьціў туды другую маладую матку, азначыўшы яе чырвонай хварбай (першая была таксама азначаная тым-жа колерам). Пасьля 8-мі дзён была ўжо знойдзеная чарва і яечкі. Пчолы разьвіваліся зусім нармальна.

У часе перагляду ўвосені 1933 г. была чарва, дык і маткай Зігль ужо не займаўся. Але-ж якое было яго зьдзіўленьне, калі 5 кастрычніка 1934 г. знайшоў ён дзьве дададзеныя ім у 1933 г. маткі ў гэтым-жа самым вульлі (*№ 3*). Адна знаходзілася з аднаго боку вашчыны, а другая з другога. Пакінуўшы іх дзеля цікавасьці, як доўга будуць яны так прыязна побач сябе жыць, Зігль думаў што ў хуткім часе знойдзе адну з іх выкінутай з вульля. Аднак-жа так ня было і мёртвай маткі перад вульлём ён не знайшоў.

У сакавіку 1935 г. ён заўважыў, што вулей *№ 17* мае незаплодненую матку. Ня маючы ў запасе ніякай маткі, ён прыпомніў, што летась увосені ў вульлі № 3 было дзьве.. А можа яны перазімавалі і другую зіму!? Але гэта было вельмі няпэўным.

Амаль ня маючы надзеі, пайшоў ён 23 сакавіка да вульля з дзьвюма маткамі (*№ 3*) На пятай рамцы была чарва і матка, далей на шостай — чарва і — другая матка! *Значыць, яны перазімавалі разам дзьве зімы.* Адну з іх Зігль памясьціў у вульлі *№ 17* і яна была прынята пчоламі адразу.

Цікава, ці пчолы ў вульлі *№ 3* зімавалі разам у ваднэй кучы, ці падзеленыя, гэта значыць, кожная палавіна з сваёй маткай. Гэтага, на жаль, Зігль не заўважаў.

*Мір. Зінаіда Пецьчанка*



# КРАСАВІК У ПЧАЛЬНІКУ.

Пчолы ўжо пайшлі ў поле. Ці ўсе падмецяныя вульлі? Калі не, то пасьпяшыце гэта зрабіць, ня змушайце пчол траціць час і энэргію на спратываньне вульлёў. Сьмяцьцё з вульлёў перасейце праз рэшата. Мёртвыя пчолы спаліце або закапайце ў зямлю. а дробныя крошкі воску схавайце, каб у вольны час пeратапіць. Воску не прадавайце, а перарабляйце або мяняйце яго на вузу. Вуза сёлета дарагая, а бяз вузы рацыянальнай гаспадаркі вясьці немагчыма.

Калі пагода пазваляе не адкладываючы рабіце першы перагляд. Пры перaглядзе зьвяртайце ўвагу ці: 1) усюды ёсьць маткі, 2) ці добрыя маткі, аб чым можна судзіць паводле чарвы, 3) ці маюць пчолы задавальняючы запас мёду, 4) ці маюць пяргу неабходную дзеля кармленьня чарвы. Калі-б запасу пяргі ня было, а ў даннай ваколіцы адпаведных расьлін (лаза, арэшына і г. п.) няма, то давайце пчолам муку, вешаючы на дрэвах (здалёк ад вульлёў) рамкі сушы напоўненыя мукой, найлепш саёвай.

Вульлі, якія патрабуюць падкормліваньня, падкормлівайце цукрам з малаком.

Робячы перагляд старайцеся рабіць яго хутка і лішне вульля не раскрывайце, каб не сьцягнуць нападкі, дзеля гэтай самы прычыны падкормлівайце толькі ў вечары.

Гнёзды трымайце цёпла накрытыя.

Выкарыстайце веснавы час, каб пасеяць як найбольш медадаяў! На полі: дзяцеліну паўзучую (белую), сэрадэлю, буркун, белую гарчыцу, фацэлію; рабіце спробы з мядовым асотам; сейце на няўжытках асацец грэцкі, мэлісу дзікую, мэлісу турэцкую; садзіце ізоп. Пры дарогах, на сьцежках і каля хатаў садзіце ліпы, акацыі ды клёны; дзе німа ляшчыны, вербаў і лазы, садзіце іх, каб запэўніць пчолам збор пяргі ў раннюю вясну.

---

# Пчаліная вошанка

(Braula coeca Nitsch).

Гэта распаўсюджаны паразіт нашай пчалы, ведамы пад назовам „*пчаліная вош*“. Хаця трудна верыць, але вошанка ня мае нічога супольнага з вошамі, а зьяўляецца сваячкай хатняй мухі. Яна, жывучы як парязіт, сільна зьмяніла свой выгляд, а цяпер нават і не прыпамінае нам муху.

Вошанка вельмі малая, бо мае толькі каля 1,5 мм. даўжыні. Яна касматая, бязкрылая, рыжа-чырвонага колеру. Маючы тры пары ножак (з адумыснымі прыладамі да прычэпліваньня) яна можа пераходзіць з мейсца на мейсца з пчалы на пчалу.

Маладыя вошанкі надта ахвотна нападаюць перадусім на пчаліную матку. Некатарыя дасьледчыкі зьбіралі па 50, а нават і 180 штук вошанак з аднэй толькі маткі!

Вырасшая вошанка складае белыя, кволыя яечкі на пакрыўкі пчаліных чарачак. З яечак гэтых выходзяць лярвы, каторыя кормяцца мёдам. Сьпелая, лярва мае каля 2 мм. даўжыні. Пасьля яна пермяняецца ў лялячку, а з яе ўжо выходзіць маладая во-

шанка, спачатку белага колеру.

Мушка гэтая прычэпліваецца чытырмя ножкамі да галавы пчалы, а пярэдняй парай ласкоча яе верхнюю губу так доўга, пакуль пчала ня выцягне язычок, з каторага вошанка адбірае корм.

Наагул жыцьцё пчалінай вошанкі яшчэ мала дасьледжанае.

Як просты спосаб змаганьня з вошанкай раяць абкурываньне тытуновым дымам. На дно вульля кладзецца картон лёгка намазаны нечым ліпкім і ўпушчаецца некалькі клубоў дыму з тытуну запаленага ў курадымцы. Зьбянтэжаныя дымам вошанкі ападаюць на картон, дзе і прылепліваюцца. Выняты пасля картон трэба спаліць. Гэта ўсё паўтараем некалькі разоў з тыднёвымі перарывамі.

*Мікалай Караленка*



# Абавязак кожнага гаспадара — дбаць аб павялічэньні плошчы медадаяў.

Рупны гаспадар з надыходам вясны аблічае, сколькі і чаго мае пасеяць ды пасадзіць, каб пракарміць сваю сям'ю і сваю жывёлу. Рупны пчаляр павінен падумаць аб сваёй маленькай жывёле — пчолцы і не павінен дазволіць, каб у яго гаспадарцы аставаўся пустуючым ніводзін найменшы кусочак няўжытку.

На няўжыткі—медадаі: дрэвы, кусты, шматгадовыя расьліны ці аднагадовыя, што дзе можна што куды надаецца.

Выкідаем платы. няхай яны нам мейсца не займаюць: замест іх — медадайныя жываплоты!

Кармовыя расьліны – медадаі! Кветкі ў гародчыку пад хатай — медадаі! А ў садку, апрача яблыняў і грушаў — агрэст і парэчкі на самы раньні пажытак для пчол.

Але гэтага мала. Пчаляроў у нас ня так шмат. Калі яны нават у сваіх гаспадарках выкарыстаюць усе магчымасьці пашырэньня плошчы медадаяў, то гэта будзе капля ў моры.

Дык што рабіць? — Старацца ўсьведаміць якнайбольшы лік суседзяў-земляробаў, *што і пчолы ім прыносяць вялікую карысьць, запыляючы гаспадарскія расьліны, дрэвы і ягадныя кусты, чым у вайрамаднай меры павялічываюць ураджай насеньня і фруктаў.*

Трэба, каб земляробы зразумелі і ацанілі свае карысьці і ўсе грамадой прыступілі да акцыі павялічэньня плошчы. медадаяў!

Трэба зазначыць, што зацікаўленьне медадаямі расьце; шмат дзе садзяць жываплоты з жоўтай акацыі; што раз больш сеюць белай гарчыцы, але гэта толькі пчаляры.

Паўтараем. што гэтага мала! Усе земляробы да працы на гэтым полі! Павялічэньне колькасьці мёду і павялічэньне ўраджаяў на полі і ў садзе — няхай будзе супольнай мэтай.

*Людвіка Войцікава*



# ВАЖНЫ МЕДАДАЙ

Цяперь якраз час на сяўбу важнага медадаю, а іменна: паўзучай дзяцеліны.

Паўзучая дзяцеліна *) (*Trifolium repens*) шмат-гадовая, матыльковая расьліна, вельмі распаўсюджаная ў Беларусі, як і наагул у цэлай Эўропе.

Яна сьцелецца па зямлі, выпускаючы новае карэньне з сьцяблоў; даўжыня сьцяблоў дасягае 20-50 цт. Цьвіце ад траўня да кастрычніка.

Паўзучая дзяцеліна — нявымысная расьліна. Расьце яна ўсюды але найлепш любіць глiністую, крыху вапенную, чарназёмную глебу; вытрывалая яна на маразы, засуху, а нават таптаньне быдлам ня шмат ёй шкодзіць. Засеяная раньняй вясной пад ярае збожжа або азіміну, вырастае ў гэтым-жа годзе настолькі, што можа ўжо служыць, як васеньняя паша. Вясною яе не барануюць, як іншыя дзяцеліны, каб не абрываць паўзучых па зямлі сьцяблоў Найлепш расьліну гэтую сеяць у перамешку, з іншымі дзяцелінамі і травамі.

Трэба яшчэ зацеміць, што расьліна гэта дае лепшы гатунак сена, чым іншыя дзяцеліны.

Адносна яе значэньня ў пчалярстве, трэба сказаць, што яна багата выдзяляе мёд, нават і ў часе вялікай засухі, Мёд з паўзучай дзяцеліны густы, цягучы, празрыстага колеру, араматны і мілага смаку,

Паўзучую дзяцеліну ўважаюць за важны мёдадай, а таксама цэняць у агульнай гаспадарцы, як надта добрую пашу.

---

Ад РЭДАКЦЫІ: Насеньне паўзучай дзяцеліны даволі дарагое і мае збыт заграніцу. Можна было-б выкарыстаць гэтую акалічнасьць, гадуючы бел. дзяцеліну на насеньне.

*) Іншыя беларускія назовы: дзятліна або канюшына белая, мядунка, мядуніца.




## Лекарскія зёлкі і іх гадоўля

Узрастаючае зацікаўленьне сучаснай мэдыцыны зёлаляченьнем і, зьвязанае з гэтым, большае запатрабаваньне зёлак, выклікала адносна хуткае разьвіцьцё прадукцыі лекарскіх расьлін.

Аднак датыхчасовая краёвая прадукцыя не заспакайвае запатрабаваньня ўнутранага рынку, у выніку чаго значная колькасьць зёлак прывозіцца з за граніцы, што, ясна, узбагачвае толькі заграні́чных прадуцэнтаў. А тымчасам у нас на Беларусі столькі сем'яў з надвыжкай безработных рук, столькі дробных, некалькіморговых гаспадарак, якія ня могуць пракарміць іх уласьнікаў...

Для гэтых апошніх разьвядзеньне лекарскіх расьлінаў было-б

асабліва пажаданым і карысным.

Прыкладна ведзеная гадоўля зёлак дае без параўнаньня больш даходу, чым разводжаньне гароднiны, нават каля вялікіх местаў, ня кажучы ўжо аб збожжы ці бульбе. Для прыкладу падам вынікі досьледаў, праведзеных на 2 палёх на 100² кожнае. На адным пасеялі звычайны *румянак*, а на дуугім — *буракі*. Зямля і дагляд былі аднолькавыя. У выніку атрыманаго чыстага даходу (па адлічэньні коштаў абробкі глебы, угнаеньня, насеньня і збору цьвету) 18 злотаў з зёлак, а толькі 8 з буракоў.

Падобныя, а часта большыя, даходы даюць іншыя зёлкі, як напр.: *рымскі румянак* (валовае вочка), *валерыяна, шалзея, правасьлязь* і інш.

З гэтага можам абрахаваць, што гэктар зямлі, засеяны зёлкамі, дае ў сярэднім звыш 1½ тысячы злотаў чыстага даходу. Трэба ведаць, што даход з гадоўлі зёлак у першую чаргу залежыць ад умелага вядзеньня плянтацыі.

Рацыянальны выбар глебы пад кожную расьліну, адпаведная й старанная абробка яе і ўгнаеньне, умелы збор і сушэньне зёлак— вось варункі, ад якіх залежаць вартасьць і магчымасьці збыту лекарскага сырца.

Трэба адцеміць, што такія зёлкі, як звычайны *румянак, валерыян, кроп, кмін мальва, сарэпская гарчыца* і інш, удаюцца дасканальна на лягчэйшых глебах (дзе растуць збожжа, бульба), такія-ж зёлкі, як *рымскі румянак, шалвея*, найлепш удаюцца на чорназёме. *Мята* напр., вымагае вільготнай і ўраджайнай зямлі.

Агульна можна сказаць, што зёлкі вымагаюць глебы ўраджайнай і добра вырабленай, г. зн. як пад гародніну. Не надаюцца пад зёлкі жоўтыя пяскі, халодныя сапы, гліны.

Для пасеву расьлінаў трэба выбраць найбольш адпаведную пару. Так, напрыклад, валерыяна навінна быць пасеяна ў зямлю адразу пасьля зборкі насеньня, бо інакш яна траціць 80% сілы прарастаньня. *Правасьлязь лекарскі* (*Althae officinalis*) можна сеяць у жніўні, як і ранняй вясной у зямлю або разсаднік, а з яго перасаджваць у зямлю. *Пяпровая мята* (*mentha pipoerita*) размнажаецца прыпомачы флянсаў, вэгэтатыўны спосабам можна атрымаць у працягу лета з аднаго кусьціка сотні флянсаў (ясна, пры ўмелым даглядзе). Падобным шляхам размнажаем *рымскі румянак* (*Authemis nobilis*), з тэй толькі розьніцай, што першыя флянсы тут атрымліваем з насеньня, чаго нельга сказаць аб пяпровай мяце. Насеньне звычайнага румянку (*Matricaria chamomilla*) высейваем раньняй вясной беспасярэдня ў зямлю. Падобна сеям *кменн, кроп, аныж, гарчыцу* і інш.

Падрабязна абгаварываць гадоўлю паасобных прамыслова-лекарскіх зёлак будзем у наступных нумарох нашага часапісу.

*Мгр Ганна Алексеюк.*

---

Гуртовыя цэны на некатарыя зёлкі ў 1936 г. паводле дадзеных Польскага Камітэту Зелярства (Wiadomości Zielarskie № 3 (47 marzec 1937 r.).

Цэны лёко станцыя адпраўкі ў злотых за 1 кгр.

Л. — лісьцё, кв.-кветкі, кр-каранёньне, з-зельле, — п — пупышка, н—насеньне.

| | |
|---|---|
| Ганыж н . . . . . | 1.50 — 3.25 |
| Дурман л . . . . | 0.50 — 1.00 |
| Чарнушка н . . . | 1.00 — 1.20 |
| Гарчыца н . . . . | 0.60 — 1.00 |
| Кмен н . . . . . | 0.60 — 1.00 |
| Канвалея кв . . . | 6.00 —12.00 |
| Кроп гародні . . . | 0·50 — 1.00 |
| Кроп італіянскі н . | 0.50 — 1.00 |
| Грэцкае сена н . . | 1.00 — 1.60 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Валерыянка кр . . | 2.00 — 3.00 | Барвінак з . . . . | 1.00 — 1.50 |
| Арніка кв . . . . | 1 80 — 2.50 | Бабок-Бабоўнік м . | 0.70 — 1.00 |
| Ляванда кв . . . . | 3.50 — 5.00 | Чарніца яг. . . . . | 1.20 — 1.30 |
| Блёкат л . . . . . | 1.00 — 2 00 | Братачкі р . . . . | 0.50 — 0.70 |
| Гіпсоўка кр . . . | 1.00 — 2.20 | Брушніца л . . . . | 0.40 — 0.70 |
| Мята пятровая л . | 2.00 — 3.75 | Бяроза п . . . . . | 1.10 — 1.80 |
| „ „ . . . . | 1.00 — 1.50 | Дуб кара . . . . . | 0.20 — 0.30 |
| Сьляз кв . . . . | 1.80 — 3 00 | Ялавец яг . . . . | 0 15 — 0.30 |
| „ . . . . | 2.50 — 6.00 | Ажына л . . . . | 0.50 — 0.60 |
| Румянак кл . . . . | 1.00 — 1.80 | Крушына кара . . | 0.20 — 0.30 |
| „ . . . . | 2.00 — 3.00 | Маліна яг. . . . . | 1.75 — 6.50 |
| Рабарбар кр . . . | 2.00 — 3.00 | Мох ісландзкі . . . | 0.20 — 0.45 |
| Шалвея лекарск. л. | 1.00 — 1.50 | Малачай кр. . . . | 1.20 — 1.60 |
| Сардечнік з . . . | 1.00 — 1.50 | Пырнік . . . . . | 0.30 — 0.70 |
| Красаўка кр . . . | 1.00 — 2.00 | Парэчка чорная . . | 0.30 — 0.60 |
| „ . . . . | 1.50 — 2.50 | Кацячыя лапкі з . | 0.50 — 0.80 |
| Бэз белы кв . . . | 1.10 — 2.75 | Падарожнік з . . . | 0,20 — 0.35 |
| Ліпа дробналістая кв | 1 00 — 1.50 | Загартушка з . . | 2.50 — 5.00 |
| „ „ . . . . | 0.60 — 1.00 | Спарынец . . . . | 2.50 — 5·00 |
| Ліпа вялікалістая кв | 0.25 — 0.60 | Дзераза . . . . . | 4.00 — 8.00 |

# Садоўніцтва і агароднiцтва

## Яблынны кветкаед

Вельмі часта можна бачыць на яблынях, менш на ігрушах, што некатарыя пупышкі не расьцьвітаюць, а пялёсткі іх кароны робяцца бранзовымі і сохнуць. У нутры гэтых пыпушак знаходзяцца белыя (у кожнай пупышцы адна) падобныя да чарвячкоў лярвы, якія робяць гэтую шкоду.

Гэта лярвы жучка, яблыннага кветкаеда (Anthonomus pomorum L). Жучок гэты малы, $^1/_2$ цм. даўжыні, бранзовага колеру з шэрым, папярэчным паяском на крыльлях, мае даўгі хабаток. Зімуе ён пад апаўшым лісьцём, у шчылінах кары, або пад мохам. Вясною ён вылазіць з схаванак і складае на пупышках яечкі. Прычым заўважана, што жучок гэты ўнікае дрэваў пабеленых вапнай і не складае на іх яечак. З яечак выходзяць лярвы, каторыя шкодзяць пупышкам. Унутры іх пасьля, пераменяецца ў пачварку з каторае хутка выходзяць ужо дарослыя жучкі. Жучкі кормяцца лісьцём яблыняў, але большых шкод ня робяць.

З усяго гэтага бачым, што шкоду робяць нерадусім лярвы цьветаеда, псуючы кветкі яблыняў, радзей ігруш.

БАРАЦЬБА:

1) Раньняй вясною апырсківаць і бяліць вапнай дрэвы.

2) Калі гэта магчыма, дык зьбіраць і нішчыць пашкоджаныя, бранзаватыя пупышкі, пакуль яшчэ з іх ня выйшлі жукі (рабіць гэта перад чэрвеням).

3) Рана, яшчэ чуць сьвет, страсаць жукоў з дрэваў на разсьцеляныя мяшкі, зьбіраць іх і нішчыць. Рабіць гэта трэба ў красавіку, пачатку траўня, а пасьля ў чэрвені.

4) У месяцы ліпні на ачышчаныя пні яблыняў закладаць паяскі з саломы, паперы, ганучак. Паяскі гэтыя зьнімаць зімою і паліць з знаходзячыміся тамака шкоднікамі.

5) Ахова жамяраедных птушак.

*Мікалай Караленка*

---

# Соя

Соя (Soia hispida Moench) — аднагадовая расьліна, належыць да сям'і матыльковых; мае лісьцё падобнае да фасолявых, толькі вузейшае і больш валаскаватае. Кветкі вельмі малыя, белыя з фіялетавым адценкам і лёгкім пахам. Зярняты, падобныя да фасолявых, бываюць рознай вялічыны і колеру, залежна ад адмены. Ад гэтага самага залежыць і яе вышыня, каторая сягае ад 40 цм. да $1^{1}/_{7}$—2 м.

Соя паходзіць з Усходняй Азіі. У Кітаі яе лічаць сьвятой расьлінай, падобна як пшаніцу, рыж, проса і соргу.

Карысьць з гадоўлі сої вялікая. Яна надта плодная, бо з аднаго зярнятка дае 100 да 120 зярнят. Вытрывалая ў нашым клімаце, бо бывае, што вясеньнія прымаразкі зьнішчаць агуркі, фасолю, памідоры, а ёй ніякай шкоды ня робяць. Мае сільна разьвітае карэньне, каторае глыбока ўлазіць у зямлю, прычым на ім знаходзяцца барадаўкі азотных бактэрыяў. Дзеля гэтага яна, падобна як лубін, узбагачвае глебу ў азот і то яшчэ на значнай глыбіні. Тады варта яе садзіць перад расьлінамі, каторыя глыбака пушчаюць карэньне, бо яна падгатуе ім зямлю.

Цэлыя расьліны маладой сої, а пасьля лісьцё з ахвотай ядуць куры, індыкі, качкі, гусь, скаціна — вось і другая карысьць, апрача зярнят. А трэба яшчэ зацеміць, што соя, ці гэта як зялёная паша, ці як сушаная — мае вялікую вартасьць. Зярняты сої даюць прыемнага смаку алей, які пры розных стравах і пячэньні цеста — зусім добра замяняе масла. Алей з сої лёгкастраўны. Макуха, якая астаецца пасьля вырабу алею, мае найменш 36% бялка, зьяўляецца першараднай пашай і асыпкай для цялят, парасят, хатніх птушак, павялічывае малочнасьць кароў, носнасьць кураў, качак і г. д.

Зерня, пазбаўленае тлустасьці і зьмеленае, дае вельмі пажыўную муку, каторая не ялчэе. Такую муку, зьмяшаную з жытняй, ужываць можна як матарыял на рознае печыва. Стравы, прыгатоўваныя з сої, сьмела могуць замяніць мяса, а нават яго перавышаюць, бо зьяўляюцца ў дадатку лёгкастраўнымі. Соя мае надта важнае значэньне ў аджыўляньні хворых на цукровую хваробу, бо знаходзіцца ў ёй толькі вельмі нязначная колькасьць крахмалу.

Пашырэньне ў нас гадоўлі сої і шырокае зазнаямленьне з умелым выкарыстаньнем яе, як ежы, будзе вялікім дабрадзействам для незаможнага жыхарства, бо пры сваёй таннасьці дае яна розную

і сытную ежу. Калі яна распаўсюдзіцца, будзе тады напэўна самым танным прадуктам спажываньня, што мае вялікае значэньне для вёскі, дзе кормімся звычайна капустай і бульбай, да каторых не заўсёды знойдзецца кусок сала.

Зацікаўцеся гэтай расьлінай, загадуйце ў сябе, а шкадаваць ня будзеце! *В. Галяк.*

---

# Якую глебу любіць соя

Адносна глебы соя ня мае вялікіх вымогаў. Ня любіць яна перадусім торфу, ілу і цяжкой гліны. Вельмі цяжкая зямля ня дае добрага доступу паветру і перашкаджае ў росьце карэньням дзеля чаго соя расьце тады слаба і дае горшы ўраджай.

Найлепш надаюцца пад яе гадоўлю лёгкія ўраджайныя глінкі, добра ўтрыманая пяшчана-глiністая глеба, лёсы і іншыя, дзе добра ўдаецца жыта і ячмень.

Важным складнікам глебы пад сою ёсьць пэўная колькасьць вапны. На землях вельмі ўраджайных, соі ніякіх навозных дапамогаў ня трэба, і можа яна там быць сеянай хаця пасьля двух гадоў, або нават і пазьней, ад угноеньня. На землях менш ураджайных трэба яе сеяць у год пасьля ўгнаеньня. Адразу перад сяньнем соі гною даваць ня варта, але калі ўжо трэба, дык лепш замяніць яго старым кампостам. Прыпамінаем, што аб кампосьце пісалася ўжо ў нашым часапісе ў 1935 г. у 7 нумары (за сьнежань).

*В. Г—к.*

---

# Гігіена саду у красавіку

Апырсківаць вапенным малаком (на 100 літраў вады 6—8 кіля нягашанай вапны) фруктовыя дрэвы і кусты аграстаў, пакуль яны яшчэ бяз лісьця. Зямлю пад гэтымі дрэвамі і кустамі таксама апырсківаць вапеннай жыжкай. Ракаватыя нарасьці на галінах зрэзываць. У школках фруктовых дрэваў зрэзываць нарасьці і гузы на карэньнях маладых дрэвак. У канцы красавіка і пачатку траўня страсаць з дрэваў і нішчыць жукоў *яблыннага кветкаеда* (глядзі аб ім артыкул зьмешчаны ў гэтым нумары), каторы ў гэтым-жа часе складае яечкі.

---

# Як сабе парадзіць, калі на гарод не хапае гною

Хто ня мог угнаіць гароду ўвосені, а і цяпер гною мае мала толькі, як „папырскаць“, то лепш няхай яго не раскідае на цэлы гарод, а стасуе г. зв. мяйсцовае ўгнаеньне ці інакш угнаеньне пад куст.

Разумеецца не пад усякае варыва гэта надаецца. Напр. пад буракі, морхву, пятрушку, фасолю, усё тое, што сеем радамі, або садзім зярном, мяйсцовага угнаеньня застасаваць ня зможам. Але затое, можам іх паліваць адпаведнымі гнаёўкамі, аб чым у сваім часе напішам. Пад такое варыва, як

капуста, памідоры, нават, бульба-флансоўка. а так сама пад агуркі застасаваньне мяйсцовага ўгнаеньня вельмі адпаведнае.

Пад рассады і бульбу капаюцца адпаведныя ямкі, у якія накладаецца стары, добра перапрэўшы навоз, а яшчэ лепш кампост.

Пад агуркі робяцца ўздоўж загону даволі глыбокія равочкі, кладзецца туды навоз (добра конскі, бо дае патрэбнае агуркам цяпло), засыпаецца зямлёй і тады садзяцца зярняты.

Ня трэба казаць, што такі спосаб угнойваньня гэта вялікая ашчаднасьць на гной, але затое больш вымагае працы хаця яна аплачываецца павялічаным ураджаем.

*Л. В.*

# Боб паміж трускаўкамі

Пасаджаныя ўвосені трускаўкі сёлета дадуць ягад вельмі мала, (толькі, як пакаштаваць) а і разрастаюцца да паловы лета ня шмат. Дзеля гэтага. каб выкарыстаць пустое мейсца, паміж радамі добра пасадзіць боб.

Садзіць рэдка на $^1/_3$ мэтра зярно ад зярна, боб трускаўкам не перашкаджае, а сам на добрай зямлі расьце вельмі буйна і дае вялікі ўраджай. Не малое значэньне мае факт, што боб, на сваіх карэньчыках мае барадаўкі азотных бактэрыяў і ўзбагачывае азотам глебу, што вельмі спрыяе разьвіцьцю трускавак. Увосені, калі боб зьбярэм—бачым зямлю пухкую, а лісьцё трускавак і іх маладых флянсаў буйнае і цёмнага колеру.

*Л. В.*

# Што рабіць у садзе і ў школцы.

Наступае вясна, усё прабуджаецца, ажывае, ажываюць і шкоднікі ў садзе, якія, калі з імі не змагацца, дык могуць зьнішчыць будучы даход з саду, і тым самым змарнаваць нашу працу.

Дзеля гэтага, хто яшчэ неаскрабаў старой кары на фруктовых дрэвах, пад якой гнезьдзяцца шкоднікі, неабчысьціў дрэў з моху, няхай гэта зараз-жа, неадкладаючы, пакуль шкоднікі яшчэ не ажалі і не распаўзьліся, зробіць гэта ды набеліць дрэвы вапнай з дамешкай гліны і кароўяга навозу, дадаўшы сіняга каменя... Апрача гэтага сад трэба старанна выграбсьці, складаючы ўсё сьмяцьцё, як лісьцё, галінкі і г. д., у кучы. Кучы трэба абавязкава скапіць, бо там шмат ёсьць шкоднікаў. Выграбаючы сьмяцьцё з саду добра паклікаць курэй, якія зьнішчаць астаўшыхся (высыпаўшыхся з лісьця) шкоднікаў.

Хто яшчэ не абрэзаў сухога, гальля ваукоў, атожылья ды густых сукоў з дрэваў, няхай гэта зараз зробіць Абрэзаўшы сукі, раны трэба замазаць агароднiцкай масьцю. Абразаючы сукі, ўважаем, каб рэзь была на так-званым пярсьцёнку, бо калі абрэжам даўжэй, канец ссохне, пачне гніць, а гніль гэта зайдзе і ў самое дрэва, калі абрэжым коратка, дык зробім глыбокую рану ў дрэве, якую дрэву трудна будзе залячыць.

Ня трэба забывацца, што птушка найлепшы прыяцель агародніка і дзеля гэта мусім зрабіць хоць пару шпакоўняў і павесіць іх ў садзе так, каб каты не даставалі.

Шпак апрача таго, што будзе нам весела пасьвіставаць, зьнішчыць шмат шкоднікаў у садзе.

У школцы, хто мае стратыфікаванае насеньне, няхай зараз-жа пасее. бо будзе позна, Дзічкі леташняй сяўбы (аднагадовыя) трэба скараціць вострым нажом так: мацнейшыя на адну трэцьцюю часьць, а слабейшыя на палову. У школках, у якіх зямля высахла, ня гразка, перакопываем і ўспульхніваем зямлю паміж радамі дзічак, тое самае робім і ў садзе, толькі трэба помніць, што ў садзе ўспульхніваем (абкопываем) так шырака, як расьцілаецца карона, а ня так, як гэта ў нас часта робіцца, што гаспадар парне пару разоў каля пня лапатай і годзі.

Прышчэпліваючы дзічкі ці перашчэпліваючы старыя яблоні помнім, што найлепш шчапіць, як лопаюцца пыпушкі і кара добра адстае ды толькі мёртвымі зразамі.

*А. Войцік.*

---

# Закладайма кветкавыя гародчыкі

Амаль пры кожнай вясковай хаце знойдзецца кавалачак зямлі, дзе-б можна было залажыць кветнік. Бываюць часамі, але вельмі рэдка, такія гародчыкі пры сялянскіх хатах нават і зусім добрыя, аднак найчасьцей спатыкаюцца яны бесплановыя, зробленыя бяз ніякага толку, або проста на гэтым кавалачку расьце крапіва, дзяды ды іншае пустазельле; ляжаць кучы сьмяцьця, гною, каменьня, палак і г. д.

Каб мець пры сваей хаце кветкавы гародчык, трэба прылажыць троху працы і стараньня. Дбаць аб гэтым павінна моладзь, перадусім дзяўчаты, ды нават і хлапцы, каб наша сям'я ў вольныя ад працы хвіліны магла прабываць сярод кветак і зеляні, дыхаць поўнымі грудзьмі... забыцца аб штодзеннай бядзе і хлопатах, адчуць здаваленьне і шчасьце сярод чароўнай прыроды. Праз гэта упрыемнім сабе жыцьцё, а так-жа створым прыгажэйшы, эстэтычнейшы выгляд нашай шэрай вёскі..

Бо якае мілае ўражаньне выносіць праходзячы падарожны, вандроўнік, бачачы мора ўсялякіх колераў красак, ён ня можа адарваць вачэй з захапленьня; вобраз такі застаецца ў ягонай душы на заўсёды.

Першай чыннасьцяй (маючы адпаведны кавалачак зямлі пад гародчык) будзе яго *упарадкаваньне*; калі ёсьць ямы ці няроўнасьці — выраўнаваць, сабраць сьмяцьцё, выкараніць дзяды, крапіву. Як гэта будзе ўпарадкавана — трэба зрабіць *абгародку*, якая можа быць штучная, з частаколу, латаў, паркану і г. д., дзеля таго, каб у такі гародчык ня мела доступу жывёла, а добра зробленая абгародка да дае яму болей красы; яшчэ болей красы можа дадаць абгародка натуральная, г. зв. *жываплот*, які даюць густа каля сябе пасаджаныя дрэвы або кусты растучыя, жывыя, ад чаго паходзіць і назоў. У нас па вёсках нідзе не спатыкаюцца ды ня ведаюць аб іх, а я ўважаю. што *жываплоты*, як *кветнік* і *садкі* пры хатах павінны быць папулярныя, дзеля чаго справу гэту пастараюся прадставіць больш падробна.

Жываплоты ў залежнасьці ад прызначэньня, могуць быць *высокія* або *нізкія*. На *высокія* жываплоты гаддзяцца: *жоўтая акацыя* (Caragana arborescens), *Галабень*, (Crataegus oxyacantha), *ёлка*

(Picea excelsa), *вярба* (Salix caprea) і іншыя.

На *нізкія* жываплоты: *Шпірэя* (Spirea), *язьмін* (Philadelphus coronarius), *сьнягулькі* (Symphoricarpus racemosus).

*Жоўтая акацыя* — куст шырака ведамы, вырастае досыць высока (да 3 м.), надаецца на ўсякай глебе, медадайны, цьвіце ў чэрвені. Размнажаецца з насеньня, якое трэба зьбіраць у жніўні. Стратыфікаваць ня трэба, сеяць вясной у канцы красавіка і пачатку траўня на ляху шыр. 1,20 м. у радкі, радок ад радка 10 цм., у радку што 2 цм., прыкрыць на 2 цм. глыбінёй. Перад сяўбой зярняты трэба намачыць, каб хутчэй усхадзілі. Такім чынам праз 5 – 7 дзён акацыя ўзойдзе, а калі будзе мець 2 лісьціначкі, то трэба яе разсадзіць на ляху, рад ад раду 20, у радзе 10 цм. Больш перасаджваць ня трэба. На жываплот гадзяцца 2-х гадовыя дрэўцы. Пасьля пасадкі на мейсца сталае праз 3 гады не абразаць зусім і плот будзе гатовы. Потым што год пасьля цьвіценьня абстрыгаць.

*Галабень* — куст з калючымі шпількамі на суках, добра расьце на зямлі ўраджайнай, глiністай, горш на пяшчанай. Цьвіце ў траўні і чэрвені, медадайны. Распаўсюджваецца з насеньня, якое зьбіраецца ў восені, стратыфікуецца ў пяску на $1^1/_2$ году, а вясной высяваецца на ляху як і акацыя і ўсе далейшыя працы падобныя як і пры апошняй. Падстрыгаць толькі маладыя. Высьцерагацца садзіць блізка саду, бо галабень рассаднік шкоднікаў, нападаючых на фруктовыя дрэвы.

*Ёлка* — у нас найбольш распаўсюджана, бо ўдаецца на ўсякай глебе, аднак лепш расьце на глебе глiністай, сярэдняй вільгаці. На жываплот прыдатныя маладзенькія 3–4 гадавыя ёлачкі, прысадзістыя, растучыя на беразе лесу, з добра развітымі бакавымі лапачкамі, сучкамі. Садзіць яе можна толькі вясной, на другую вясну пасьля пасадкі трэба падстрыгчы вярхі, на трэці год і далейшыя — стрыгчы і зьверху і з бакоў (пры тым зьверху стрыгчы трэба вясной, а з бакоў у восень). Можна размнажаць з насеньня.

*Вярба*, гэта дзерава вырастае да 10 м. вышыні, або астаецца кустом. Цьвіце ў сакавіку і красавіку. Кветкі маюць форму больших каткоў, якія пчолы вельмі ахвотна абсядаюць. Даюць у большай кольказьці мёд, пяргу і кіт. Як бачым, дае пчолам самы першы, самы ранейшы пажытак, дзеля чаго ракамандуюць яе гадаваць там, дзе ёсьць пчальнікі. Расьце найлепш на пяшчана-глiністай глебе і дае многа цьвету, на нізкіх грунтах надта слаба або зусім не дае цьвету.

Вярба вельмі лёгка размнажаецца з дзервянелых саджанак. Дзеля гэтага бяруцца маладыя „віткі“, рэжуцца на кавалкі даўжынёў 20 цм., праз зіму найлепей перахаваць у варыўні, закапаўшы ў пясок, вясной высаджваюцца ў добра ўгноенную зямлю на ляху, бачучы каб на вярху былі толькі два–тры вочкі, у раду адлеглыя ад сябе на 25 цм. у радзе на 10 цм., як ужо падрасьце — трэба бакавыя сучкі абрэзаць, каб надаць лепшую форму.

Двух-гадовыя дрэўцы можна садзіць на жываплот.

Апрача гэтага спосабу вярбу можна размнажаць укопываючы ў зямлю слупкі таўшчынёй 15 — 20 цм. а хутка вырастуць на вельмі прыгожыя дрэвы.

*Сьнягулька* — прыгожы, разлогі куст, вышынёй $1 - 1^1/_2$ м. Ня пераборны што да глебы. Цьвіце ад чэрвеня да кастрычніка (да маразоў). Пчолы адведываюць праз усё лета. Кветкі дробныя, ружовыя, ягады круглыя, белыя. Размнажаецца праз падзел кустоў, з адрост-

каў і з насеньня, якога стратыфікаваць ня трэба.

*Шпірэя* — куст вырастае вялічынёй да 1,50 м. Не медадайны. Размнажаецца праз падзел кустоў. Бывае досыць прыгожы жываплот.

*Язьмін*—куст вышыні 1 — 2 м. Кветкі белага колеру, надта пахнючыя. Размнажаецца праз падзел кустоў.

Апроч вышэй успомненых дрэў і кустоў прыдатных на жываплоты, ёсьць яшчэ шмат іншых. Мушу толькі зьвярнуць увагу на выбар дрэў на жываплот. Калі хто мае болбшую ці меншую пасеку дык абавязкава павінен дабіраць дрэвы на жываплот медадайныя. Апроч гэтага трэба старацца, каб такі жываплот як найменш нас каштаваў, дзеля чаго на жываплот браць з тых гатункаў, якія маем пад рукамі, якія растуць у ваколіцы.

Тое мейсца, дзе думаем пасадзіць высокі жываплот — трэба перакапаць глыбінёй на 30—40 цм, і шырынёй на 60 цм. Дрэвы на высокі жываплот садзіць трэба на адлегласьць 30 цм. на перамену ў два рады. Пад нізкі жываплот зямля перакопываецца на 35 цм. шырынёй (глыбіня як вышэй) і садзіцца таксама ў 2 рады ў адлегласьці 25 цм. ува ўсе бакі.

Апроч абгародкі кветнік павінен мець: 1) кветачнікі, (клёмбы, дзе растуць кветкі), 2) дарожкі і сьцежкі, 3) траўнікі і 4) абводкі.

*Клёмбы* мусяць мець форму простых фігур , квадрату, прастакутніка, трохкутніка або кола (не рабіць у форме фігур зубатых, зорак і г. п.). Іх ня трэба высака падымаць, усяго на якіх 5 цм., а кругом аблажыць дзёрнам, а то і зусім клёмбы робяцца роўна з траўнікамі, не насыпаючы зямлі. Угнойваць пайленш кампостнай зямлёй.

*Дарожкі і сьцежкі* могуць мець рознаякую шырыню, у залежнасьці ад іх назначэньня і так: дарожка да ганку (галоўная) павінна мець 2 м. шырыні, дарожка шпацыровая — $1^1/_2$ м. і дарожкі спэцыяльныя (сьцежкі) навокал хаты зачыняць акяніцы і г. п. — $^1/_2$ м. шырыні. Дарожка павінна быць на сярэдзіне троху выпуклая для сьцёку вады.

Між клёмбамі павінен быць *траўнік*, дзерван. Хто хацеў-бы мець буйнейшы, гусьцейшы парост — той павінен сеяць наступную мяшанку траў: 3 часьці *канюшыны белай* (Trifolium repens), 3 часьці *райграсу ангельскага* (Lolium perennesi), 2 часткі *цімафейкі* (Phleum protense) і 2 часьці *кастравы разложыстай* (Festuca rubra falax). На 1 $м.^2$ траўніка гэткай мяшанкі трэба пасеяць 5 грм., папярэдня зьмяшаўшы з сухім пяском. Пасьля сяўбы насеньня прыкрываць зямлёй ня трэба, а толькі прыкляпаць дасочкай. Пасьля абходу, трэба траву часта касіць, 3—4 разы праз лета, нізенька роўна з зямлёй.

Уздоўж сьцежак і дарожак, дзе ня мае расьці жываплот, робіцца мейсца на *„абводкі“*, перакопываецца загончык зямлі шырынёй 50 цм. і пасьля садзяцца краскі флянсамі (рассадай), даволі густай ў 3 рады. Вельмі добра гадзяцца на „ абводкі“ *аксаміткі* (*гвоздзікі*) (Tagetes patula і signata pumila), *нагаткі* (Celendula officinalis), братачкі (Viola tricolor), якія пасьля перасадкі на мейсца сталае, скора зацьвітаюць і цьвітуць аж да самай восені, бяз перапынку.

Агульныя ўвагі: ня вымагаецца, каб на куплю насеньня красак аддаць шмат грошы, а наадварот, трэба сеяць такія краскі, якія маем, адпаведна дабіраючы колеры, нпр. прыгожа выглядае колер белы з чырвоным, або жоўты з сінім. Таксама высокія краскі трэба садзіць пасярэдзіне клёмба, а нізкія па берагох, а сярэдняй вышыні між высокімі і нізкімі (пасярод).

Пажадана дабраць іх так, каб цьвілі ад ранняй вясны і аж да познай восені. Вымагаюць яны большага ці меншага дагляду як пільнае нішчэньне ліхазельля і перарываньня загуста пасеяных кветак. Каб аблягчыць сабе працу, пажадана насеньне пасеяць радкамі, а між радкоў вузкой матычках успульхніваць зямлю. Таксама ў часе засухі канешна трэба паліваць зямлю наскрось, чым часта ды толькі па вярху (зямля камянее); рабіць гэта трэба вечарам. бо тады вада менш выпароўвае. Жываплот абавязкава трэба два разы ў год падстрыгаць роўненька, каб меў прыгожы выгляд.

Плян гародчыка трэба датарнаваць да сваіх варункаў як размеру і палажэньня кавалачка зямлі, празначанага пад гародчык.

Прыгожасьць яго будзе ў большай меры залежыць ад фантазіі плянуючага гародчык на паперы і ад дакладнага выкананьня яго на грунце.

Працы ня надта шмат, а прыемнасьць будзе для сябе і для другіх, бо кветкі песьцяць вочы.

Дык вясной бярэмася закладаць кветкавыя гародчыкі!

*Б. Рабіза.*

Ад РЭДАКЦЫІ: Выбар кустоў на жываплот залежыць гэтаксама ад таго, колькі маем пад гародчык зямлі. На малым кусочку трэба выбіраць кусты нізкія, каб не давалі цені. Што тычыцца кветак пав. аўтар ня ўспомніў аб кветках трывалых — зімуючых, паміж якімі ёсьць шмат вельмі прыгожых, ды медадайных, а працы пры іх мала. Пададзенага аўтарам арыентацыйнага пляну нажаль ня можам зьмясьціць, дзеля нястачы мейсца і каштоўнасьці клішы.

## Танная і добрая гародніцкая масьць

1 фунт кароўяга масла і 1 фунт пчалінага воску распусьціць на лёгкім агні. Як астыне — масьць гатовая. Якасьць гэтай масьці такая: на сонцы не цячэ, у засуху вільготная, у часе дажджу тужэе і не прапушчае вады, мышы яе не чапаюць. Раны гоіць вельмі хутка.

*Паводле „Укр. Пасічныка“.*

# Земляробства

## ЛЁН

Надыходзіць вясна, а з ёй разам і час сяўбы лёну. Дзеля таго, што лён мае ў гаспадарцы нашага селяніна даволі вялікае значэньне—не ад рэчы будзе сказаць аб ім пару слоў. У нас прывілося такое перакананьне, што лён пустуе ральлю, што лён яе вылаўляе. Гаспадар, калі пасеяў кавалак лёну, то ўжо з гары думае, што на тым кавалку будзе мець горшы ўраджай наступнай расьліны. Пагляд гэты часткава памылковы таму, што лён ня бярэ больш з зямлі,

як іншыя расьліны, але толькі ён нічога зямлі не дае. Калі мы сеем жыта, авёс ці іншую збажыну, то знаем, што хлеб зьямо, салома пойдзе ў гной і ўсё гэта ізноў пойдзе на поле гнаіць яго. З лёнам бывае інакш. Дае ён у гаспадарку адзежыну, мяшкі, а ў гной нічога, хіба толькі трохі пакульля. Нават карэньне мы вязем да хаты. На Заходзе Эўропы, у Бэльгіі, Францыі, дзе шмат маюць лёну. сеяць яго па аўсе. Авёс уважаецца найлепшым папярэднікам лёну. Ў Нямеччыне сеюць лён па бураках, бульбе, на Ўсходзе — па канюшыне, нб дзірване, У Чэхаславаччыне даюць пад лён гной. У нас добра было-б пасеяць па канюшыне іншую збажынку (напр. жыта) а потым ужо даць лён. У Віленшчыне сеюць на канюшынішчы, але таму там і валакно не такое мяккое, далікатнае. Каб менш было пустазельля — добра было-б пасеяць лён па бульбе (асабліва там, дзе землі кепскія — і пад бульбу кладзецца гной). Дзе нельга купіць штучных гнаёў — там сеяць трэба па азімай расьліне, дзе гаспадар можа сабе пазволіць на штучныя гнаі, можна сеяць усюды. Хлеўнага гною даваць не радзіцца, таму што тады лён можа вылегчы, дае шмат пакульля і асабліва шмат мае пустазельля. *Гушчыня сяўбы* залежыць ад таго на што мы лён сеем — на валокно, ці па зерня. Калі на зерня — сеем рэдка – тады лён мае шмат бочных пасмаў. Для гэтага існуюць таксама спэцыяльныя сарты лёну — вяліказярністыя. Даюць іх каля 40 кгр. на 1 гэктар. Калі лён сеем на валакно — лепш даць гусьцей — будзе страйнейшая салома і лепшыя пучкі валакна. Сярэдняя гушчыня сяўбы 2000 расьлін на 1 кв. мэтр — каля 120 кгр. на 1 гэктар. Можна даць 4000 расьлін на 1 кв. мэтр — 220 кгр. на 1 гэктар. Але пры вельмі густой сяўбе будзем мець мала насеньня. У вас у розных паветах сеюць розна. Бывае так, што на 1 кв. мэтр бывае 350 расьлін а даходзіць часам да 3050 (вельмі густа). Пры гэткай гушчыні лён бывае ня высокі і танчэйшая салома, а то проста вылягае. У Наваградзкім, Нясьвіскім, Баранавіцкім — даюць каля 160 кгр. на 1 гэктар. Лён вельмі далікатная расьліна, ня любіць ён глыбокага прыкрыцьця і скарынкі, шмат семя прападае. У нас пры ручнай сяўбе шмат пры баранаваньні глыбака прападае і гіне, таму і сеюць гусьцей. Ральлю трэба мець роўную, бяз грудак — тады можна пасеяць і бяз баранаваньня, а толькі паверху праехаўшы валкам. Пры машыннай сяўбе — гэтага няма, там расьліны падаюць роўна, на аднолькавую глыбіню і аднолькава ўсходзяць.

У нас сеюць лён найпазьней. На Захадзе найраней — у сакавіку. Лён прымаразкаў ня вельмі баіцца. На Захадзе сакавіковы лён лепшы за красавіковы, бо лепш выкарыстоўвае зімовую вільгаць і ня так лёгка паддаецца шкоднікам і хваробам. Найгоршы шкоднік лёну — *земляная блошка*, якая жырue на ім да канца траўня — таму і сеяць трэба пасьля гэтага часу. Можна пасеяць раней, каб лён мог ўзыйсьці да 15 траўня, калі паяўляецца другое пакаленьне земляное блошкі. Сеючы пазьней, маем яшчэ тую выгаду, што насеньне пустазельля прарастае, а мы бараной ды плугам можам шмат яго зьнішчыць. Семя лепшае пры раньняй сяўбе, салома пры позьняй—але тады нападае на лён іржа. Пры раньняй сяўбе маем больш насеньня і больш, хаця горшай, саломы. Раньняя сяўба для нашых земляў бывае розная ў розныя гады.

І так дасьледчая станцыя ў Беразьвэчы (Дзісенскі павет) мела першую сяўбу 14 красавіка, а часамі і 1 траўня. Позьняя сяўба, амаль заўсёды прыпадала ў пачатку чэрвеня. Раньняя сяўба давала найлепшы ўраджай саломы і насень-

ня, а ў 1930 годзе позьняя сяўба дала найлепшы вынік. Пастаўшчына сее лён рана–каля 10 траўня – іншыя трохі пазьней.

*Лён полюць* 2 разы, Першы раз —тыдняў два па ўсходах, другі раз ў часе зацьвітаньня. Вырываць лён на насеньне трэба тады, калі ён у галоўках „цьвіцiць". У нашых умовах, калі лён дае і насеньне і валакно, вырываць трэба ў мамэнт пацямненьня сьцябла, Пасьля валакно робіцца як-бы дзераўляным і траціць шмат на сваей вартасьці. Таму ня трэба дапусьціць да перасьпеваньня.

*Лён мае* шмат пустазельля. Туды ўваходзіць і жыціца і льнянка і шмат іншых. Маюць яны часамі аднолькавую вялічыню з лёнам, таму трудна паддаюцца ачышчэньню. Для таго, каб мець іх як найменш, пажадана было-б на насеньне абрываць галоўкі. Праз сіта, больш ці менш рэдкае, высеяць усё непатрэбнае, аставіць толькі галоўкі і іх тады высушыўшы змалаціць. Гэты спосаб у нашых умовах дае максімум чыстаты насеньня. Абрываць можна на дзеравяным грэбені, прыробленым да ўслона.

*П. З.*

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ

## Рожа ў каня

Хвароба гэтая найчасьцей паўстае пасьля невялікіх ранаў скуры (напрыклад пасьля нацёртых ранаў) або ад ледзь бачаных дзёрстак (царапіны) у суседстве з бруднымі, гніючымі ранамі. Рожа пачынаецца ад зьяўленьня невялічкіх надутых і вельмі гарачых пухлінак, каторыя хутка павялічываюцца і зьліваюцца з сабою. З часам гэтыя пухліны маюць большую паверхню, зьяўляюцца на іх маленькія пузыркі, якія лопаюць, Аднак-жа бывае, што гэтых аб'яваў няма. На белай скуры часта можна ўбачыць сільную чырванаватасьць. Калі націснуць пальцам пухліну, то на ёй паўстае ямачка, каторая памалу зьнікае.

Пры рожы коні трасуцца быццам пры трасцы, толькі ў меншай ступені. Конь хворы на рожу робіцца сумным і ня хоча есьці. Часта ў мяйсцох, дзе ёсьць пухліна, конь чуе сільны сьвербі.

ЛЯЧЭНЬНЕ. Каня трымаць у цёплым памяшчэньні, а як корм даваць замест аўса ашакі (вотрыну), збаўтаныя з вадой. Унутры, калі тэмпэратура каня павышаная, трэба штодня даваць па 4,0 калёмелю (Hydrargyrum chloratum meti). Пухліну мазаць 2 разы ў дзень *камфорнай мазьзю* (1 часьць на 8 частак вазэліны). Заместа гэтага апошняга можна накладаць сагрэваючыя павязкі з *крэолінавай лізалёвай* (як аднаго, так і другога бярэцца ў прапорцыі: 2 гарбатнія лыжачкі на 1 шклянку вады), або *карболізаванай вады* (2 гарбатнія лыжачкі карбалёвай кісьлі на 4 шклянкі вады). Намочанае ў гэтай жыжцы палатно кладзецца на хворае мейсца і прыкрываецца цыраткай (вашчанкай), а пасьля ватай ці сукном. Павязку трэба мяняць два разы ўдзень. Можна яшчэ таксама лёгка ўціраць мазь з: 5,0 *тлёнку цынку* (оквасі цынку 2,0), 3,0 *іхтыолю* і 50,0 *ляноліну* (lanolinum).

*Мір. вэт. П. Алтухаў.*



# ГІГІЕНА

## Вашываcьць

Вош людзкая — паразіт перадусім дзяцей, але здараецца вашывасьць і ў дарослых людзей, найчасьцей аслабленых хваробаю, ці негігіенічным жыцьцём. Дзеля таго, некаторыя вераць, што вошы выводзяцца з бруду і нуды. Аднак гэта ня так. Вош, як і кожнае жывое, мусіць мець бацькоў, ёй падобных, жывых. Бруд толькі і неахайнасьць чалавека спрыяе іх жыцьцю. Вось чаму найчасьцей дзеці і старыя бываюць ахвярамі шасьціногіх зьвяркоў.

Разрозьніваюць 3 гатункі вашэй.

1) *Вош галаўная*: жыве толькі ў валасах галавы, найчасьцей на патыліцы і чубку, там і творацца часта каўтуны—зьбітыя, скудлачаныя, склееныя *сукровіцаю* валасы з сотнямі вашэй і гнід.

2) *Вош вопраткі*: жыве ў вопратцы, а толькі корміцца на скуры. Вош гэта пераносіць з хворага на здаровых сыпняк (сыпны тыфус), так цяжкую і грозную для жыцьця заразьлівую хваробу.

3) *Вош палавых органаў (мандавошкв)* жыве толькі на кароткіх валасах цела. значыцца на валасах палавых органаў. пад пахам, на брывях і веках (расьніцах.) У дарослых і дзяцей спатыкаецца рэдка, часьцей у грудных на бровах.

Барацьба з вашывасьцю даволі лёгкая, і там, дзе вашэй мала—хваціць звычайная чысьціня цела; зьмяняць бялізну, часаць густым грабянём валасы, а калі можна дык найляпей астрыгчы і мыць часьцей (усё цела) цёплай вадой з мылам. Калі гэтага зрабіць ня можна (напрыклад сэзановы работнік зімою далёка ад дому і лазьні), дык добра намазацца алеем з дамешкай трохі газы, або толькі алеем. Не насіць кажухоў на голае цела, ці толькі на сарочку; вошы любяць кажух. Калі вошы занадта распаўсюдзіліся, калі на скуры ад укусоў і цараблёньня вытварыліся раны, трэба правясьці лячэньне больш энэргічнае. Хворага астрыгчы, вымыць у цёплай вадзе, не шкадуючы мыла і зьмяніць чыстую ад вашэй вывараную ад вошэй вопратку—бялізну. Усю вопратку, з якою стыкаўся вашывы, трэба выварыць, кажухі і ватаванае павесіць здалёк ад людзей і не адзяваць некалькі месяцаў. Кажух добра выцерці (валасы) газаю з алеем (папалам), і, аж пакуль ня выветрыцца, не апранаць.

Паводле народнага спосабу, вошы можна выгнаць закапаўшы кажух у зямлю: скідаць на штых верхнюю зямлю, на выкап (ямку) палажыць кажух воўнай у ніз і прыкрыць яго акуратна зямлёю,, пакінуўшы ражок кажуха на версе. Па некалькі гадзінах (найляпей у цёплы дзень (вошы зьбяруцца ў ражку кажуха, дзе іх можна апарыць варам. Паўтарыўшы гэты спосаб па двох-трох днях можна ачысьціць кажух ад вашэй зусім акуратна.

У кабет валасы не абстрыгаюцца, а мажацца даволі тоўста ўсю аброслую часьць галавы 10% серкаваю масьцю (з вазэлінай), або 5—10% белай ртутнай уцёркі і пакрыць цыраткай або хаця тоўстай моцнай паперай і абвязаць хусткай ці палатном. Можна таксама замест масьці даць кампрэс, памочаны ў мешаніне алею з газай (роўныя часьці) і пакрыць цыраткай, акуратна, абвязаўшы нейкай палатнінай на 12 гадзін. Потым

кампрэс зьняць, голаву добра да чыста вымыць у цёплай вадзе з мылам і вычасаць мёртвыя вошы. Але на гэтым не канец. Трэба яшчэ вычасаць да апошняй усе гніды, з якіх выводзяцца вошы. Трэба густым гребянем, мачаючы яго ў цёплы воцат, некалькі разоў добра вычасаць.

Раны ад укусаў і драпаньня лечацца мазаньнем успомненай серкавай масьцю, або белай ртутнай.

Каўтун без забабонаў астрыгчы і лячыць скуру, як вышэй пададзена.

Мандавошкі нішчаць галеньнем валасоў і ўціраньнем шэрай ртутнай масьці. а яшчэ лепш белай ртутнай, бо хаця слабей лечыць, але ня выклікае запаленьняў скуры. Можна таксама лячыць уціраньнем мешаніны алею і газы (на палавіну).

Аб тым, што трэба нішчыць вошы, як і наагул усякіх паразітаў, ня трэба і пісаць. Боль ад укусаў, пагроза заразы, бо ня ведама скуль можа быць кусаючая вош, павінны кожнага прымусіць ратавацца перад гэтым назойлівым паразітам. *Віктар Войтэнка.*

# Рыбацтва

## Што гэта такое „гадоуля рыбаў"?

Ня думайце, што калі мы ўпусьцім рыбу ў нейкі стаў і будзем сьцерагчы. каб іх ня вылавіў сусед, дык гэта ўжо будзе і гадоўля.

У сапраўднай гадоўлі рыбаў перадусім імкнемся, каб упушчаныя ў стаў рыбы асягнулі як найбольшую вагу. Рыбы-ж ядуць і ператраўляюць корм на сваё цела, растуць і прыбываюць на вазе. Калі мы ўпусьцім за шмат рыбаў, дык рыбы ня будуць расьці зусім, або надта мала. Прычына: нястача корму. У багаты ў яду стаў можна ўпусьціць больш рыбэў, у бяднейшы менш. Зноў-жа бедны стаў можна ўзбагаціць у яду пры помачы: кашэньня чароту, пухавак (кіявак) і іншых непатрэбных у рыбным ставе расьлін, адпаведнай рупнасьцю каля дна ставу, умелым угнойваньнем ставу і кармленьнем рыбаў (напр., лубінам), мяшаным падборам рыбаў, г. зн. гадоўлю карпаў старшых і малодшых, а таксама дадатковых гатункаў як лінкаў, шчупакоў, сандачоў і ім падобных.

Мыляўся-б нехта, хто думаў-бы, што гадоўля рыбаў канчаецца толькі на ўмелым завядзеньні рыбаў у ставе. Трэба яшчэ старацца, каб вада ў ставе была на адпаведным роўні, ці гэта ў часе посухі, ці вялікіх дажджоў. Вада ў ставе ніколі ня можа зьмяншацца ў часе росту рыбаў, бо тады зьмяншаецца і харчоўня рыбаў, што ім надта шкодзіць. Зноў-жа вялікае прыбыцьцё вады,нпр. цасьля буры, можа парваць грэблі, заставы і панясьці рыбы з ставу.

Трэба памятаць, што ўмелая рупнасьць каля рыбных ставаў можа даць вялікую карысьць людзям разумным і працавітым.

*Язэп Бабрук*

# ГАДОЎЛЯ РАКАЎ

Ракаў можна гадаваць у такіх мяйсцох, дзе цяжка знайсьці адпаведныя абставіны для заснаваньня рыбных ставоў. Рак любіць цёплыя крыніцы з мяккімі берагамі, у каторых лёгка можа знайсьці выгадныя схаванкі і норы. Ен асабліва любіць прабываць у вадзе, дзе на сподзе знаходзіцца вапенны туф, каторы дае яму патрэбную вапну да тварэньня панцыра. У гэтых водах можна адначасна гадаваць малыя рыбкі, г. зв. „беларыбы", каторымі кормяцца вялікія і шляхотныя рыбы, як ласасі, шчупакі ды інш. У выпадку, калі берагі ставу ці крыніцы ня даюць патрэбны схаванак ракам, тады на сярэдзіне вады робяцца вастравы, пакрытыя дзярном, пакідаючы ў сярэдзіне дзіру наскрозь выкладзеную каменьнямі. Вастравы гэтыя абсаджываюцца вярбой і іншымі кустамі, каб даць ракам патрэбны цень, а таксама і корм.

Мы ня ведаем яшчэ так добра жыцьця ракаў, каб магчы іх штучна гадаваць, запладняць ці нешта падобнае. Мы можам іх толькі ўтрымоўваць і карміць, сабраўшы ў большай колькасьці ў адным мейсцы, стварыўшы неабходныя абставіны для іх жыцьця.

Ракі наагул задавальняюцца кожнай вадой, каб толькі яна ня была надта быстрай. Хопіць пашырыць крыніцу, прыгатаваць адпаведна бераг ці вастравы, а ўжо і будзе добрае ім гняздо. Ракі ня грэбуюць ежай, ядуць амаль ня ўсё: буракі, капусту, кухонныя адкіды, жабы, падліну, а маладым ракам дык і ня трэба адумыснага корму. Калі ў вадзе, дзе жывуць ракі, знаходзіцца шмат чарвякоў і аваднёў, тады хоціць ім раз у месяц дадаць корму. Узімку няма з імі зусім бяды, бо ўсьцяж сядзяць у норах, ня вылазячы з іх.

Ракі растуць вельмі памалу і нельга прадаваць малодшых, чым дзесяцігадовых.

У нас знаходзіцца шмат нявыкарыстаных нізінных і вільготных няўжыткаў, а дзеля таго, што гадоўля ракаў дае шмат карысьці, варта аб ёй падумаць нашым малазямельным сялянам *).

*Язэп Бабрук.*

---

*) У наступных нумарох нашай часопісі мы будзем ужо больш падрабязна займацца ракам і ягонай гадоўляй.

*Рэд.*

# Грыбазнаўства

## Збіраньне і сушэньне смаршчкоў

Вельмі ў нас распаўсюджаныя смаршчкі залічаюцца да найпажыўнейшых грыбоў, чым перавышаюць нават баравікі. З гледзішча гандлёвай вартасьці важны перадусім гатункі: смаршчок страўны *(Morchella esculenta)*, с. д а с к а н а л ь н ы (*M. deliciosa*), с. в о с т р а ш а п а ч н ы (*M. conica*, с. з в а н о ч н ы *M. patula* і інш. Усе яны маюць

выдутыя пянькі, звычайна жоўтага або сівога колеру, дзіўна пакручаныя шапачкі, пакрытыя ямачкамі і пукатасьцямі.

Смаршчкі зьяўляюцца вясеньнімі грыбамі і знайсьці іх можам зараз пасьля зьнікненьня сьнегу, ад пачатку красавіка да канца траўня. Яны найбольш растуць на вапеннай і глінiстай зямлі на лясных палянах, пакуль яшчэ ня зьявіцца трава. Яны вельмі любяць расьці на папялішчах, дзе знаходзяцца попел і вуглі, зарослыя мохам і травой.

## ЯК ЗЬБІРАЦЬ СМАРШЧКІ?

Зьбіраючы смаршчкі, як і наагул іншыя грыбы, перадусім мусім уважна іх вырываць (ніколі зрэзываць нажом!) а фактычна выкручываць пянек грыба з зямлі, каб не пашкодзіць грыбніцы *). Ня можна таксама складаць шмат грыбоў у вадзін кошык, бо яны крохкія і лёгка ломяцца, што зьменшывае іх цану. Перад улажэньнем грыба ў кошык, адрэзываем канец пянька, каторы быў у зямлі і зьяўляецца папэцканы пяском. Пасьля зборкі аддзяляем малыя смаршчкі, каторыя прадаем сьвежымі, а большыя сушым.

## СУШЭНЬНЕ СМАРШЧКОЎ.

Смаршчкі найлепш сушыць на сонцы і ветры. На драўляныя рамы нацягіваецца палатно і на гэтым кладуцца сырыя грыбы. Усё гэта ставіцца ў правеўных мяйсцох даволі высака, каб не наляцела пылу. Можна яшчэ сушыць, нанізаўшы смаршчкі на грубейшыя ніткі, у форме вянкаў. Прычым лепш нанізываць грыбы на ніткі ў поперак пянькоў, каб не пашкодзіць шапачак смаршчкоў. У печцы не варта сушыць, бо яны маюць тады меншую вартасьць, хіба толькі дасушываць сушаныя на сонцы.

## ЯК САРТУЮЦЦА СМАРШЧКІ?

Сушаныя вышэй прыведзеным спосабам грыбы дзелім на два гатункі. Да I гатунку залічаем большыя (але не перастарэўшыя) смаршчкі), добра высушаныя, непаломаныя, чыстыя і сухія, цёмнабранзовага колеру. Да II гатунку залічым меншыя грыбы і каторыя не падпадаюць пад I гатунак, а таксама смаршчкі зьбіраныя ў траўні, якія зьяўляюцца сьветлабранзовага колеру.

## ЯК СМАРШЧКІ АПАКОЎВАЦЬ?

Кожны гатунак запакоўваем асобна ў невялікія і чыстыя кошыкі, або драўляныя скрынкі. Кошыкі гэтыя або скрыначкі высьцілаем чыстай паперай (толькі не газэтай), каб не запыліліся або ня змоклі.

## ПЕРАХОЎКА СУШОНЫХ СМАРШЧКОЎ.

Найгоршым ворагам сушоных грыбоў ёсьць вільгаць — бо тады яны пачынаюць плясьнець. Дзеля гэтага перахоўваць іх трэба ў сухім і правеўным мейсцы. Нанізаныя на шнуркі, можна павесіць на палачках, а калі яны паасабныя, тады раскладаюцца на полках, высьцеленых чыстай паперай і пільна сьцерагуцца ад вільгаці.

*Кіра Матушкевічанка*

---

*) Грыбніца. гэта як-бы сетка з доўгіх, белых, шаўкаватых нітак, якая расьцягіваецца ў зямлі, а пры помачы каторай грыб высасывае пажыўныя матэрыі з глебы. Грыбніца гэта ёсьць сапраўднае цела грыба, а гэта, што мы звычайна завём грыбамі, ёсьць нічым іншым, як пладамі грыба, як нпр. у яблыні яблыкі.

*Рэд.*

# Жаноцкая старонка

## Арганізацыя жаночай працы.

„Беларуская Борць", па сваім зьмесьце, гэтак сама можа служыць жанчынам, як і мужчынам. Але жанчыны, нажаль рэдка карыстаюцца парадамі зьмешчанымі ў часапісі, або ў спэцыяльных брашурах (кніжках), бо ім нават на прачытаньне „не хапае часу".

Праўда, што кожная працоўная жанчына мае шмат больш абавязкаў, чым мужчына.

Мужчына — земляроб даглядае поля, жывёлы, пчолаў, калі мае, саду і г. д.

Мужчына — рамесьнік займаецца сваім рамяслом.

Але жанчына мусіць быць ўсім: і нянькай сваіх дзяцей, і кухаркай, і прачкай; яна мусіць засеяць і выгадаваць варыва, і карміць куры, свіні, цялята, і г. д.; яна ідзе ў поле жаць і яна наканец прадзе, тчэ і шые.

Ды каб сваe абавязкі выканаць добра, каб праца яе была карыснай сапраўды, жанчына *мусіць мець час чытаць*, знаёміцца з практычнымі парадамі, з новымі досьледамі, з новымі дарогамі, па якіх яна ісьці павінна, каб не астацца ззаду ад ўсіх, яна мусіць мець час уводзіць у свае і сваей сям'і жыцьцё розныя неабходныя палепшаньні. Як гэта зрабіць? Скуль гэты час возьмецца? Дзе яго знайсьці? Хвіліну вольнага часу і магчымасьць дакладнага выконваньня кожнай работы і добрых парадаў дасьць нам толькі *разумнае зарганізаваньне сваей штодзеннай хатняй працы.*

У добра зарганізаванай хатняй гаспадарцы кожная, самая звычайная, самая дробная работа мусіць быць выкананая ў адзін і той самы, заўседы, азначаны на гэта час. У адну і тую самую пару што дзень уставаць, у адну і тую самую ісьці да кароў, сьвіней, карміць курей, варыць, сьнедаць і г. д. Каб работа рабілася спорна, мусім завясьці ў хаце адпаведны парадак: кожная рэч мусіць мець сваё сталае мейсца, каб ніколі ня прыходзілася чаго-небудзь шукаць. У бязладзьдзі на кожную работу трэба страціць шмат часу і шмат нэрваў; пры добрым парадку гаспадыня працуе спакойна бяз лішняй гарачкі пераходзячы ад аднэй работы да другой па загадзя ўложаным пляне, Рэч зразумелая, што парадак у хатняй гаспадарцы мусіць утрымліваць ня толькі гаспадыня, але ўся сям'я да дзяцей ўключна Самая працавітая і дбалая жанчына ня дасць рады ўтрымаць парадак і адначасна добра выканаць свае абавязкі, калі хатнія, муж, сын, дочкі, ці то меньшыя ці большыя, будуць усё кідаць бяз толку, дзе папала, і астаўляць па сабя ўсё раскінутым і ня прыбраным. Адзежа, шапкі, боты, — і далей лыжкі, міскі, кубкі, ўсё мусіць мець сваё мейсца. Хто скуль што ўзяў, на мейсца мусіць палажыць. Гэтага вымагае парадак, ад гэтага залежыць спор у працы жанчыны.

(Далей будзе)

# Куток наймалодшых

## САМІ САБЕ.

Прыгрэла сонейка, сьнегу ні сьледу, як весела бегаць, гуляць і прыглядацца, што робіцца у гаспадарцы.

Ды ня толькі прыглядацца, але і памагаць прыемна. Праўда? І з татам на поле пайсьці і з мамай на гародзе капацца. Цяпер то мама рада, мець, вас дзеткі каля сябе на гародзе, але як вырасьце морхва, агуркі, ой, то тады гарэй! Усё чуваць: „Янка, не цягай морхвы"! „Зося, ты ізноў ў агуркі ўлезла".

„Дзеці, не абшчыпывайце гароху". Вось бяда... А так хочацца паласавацца! — Што тут рабіць.

А ну, папрабуем парадзіць.

Папрасіце мамы, каб дала вам маленькі загончык, дзе небудзь у куточку, пад плотам, абы толькі ня у цянку. Акапайце яго роўненька. падкіньце навозу. Ня трэба браць з хлява, назьбіраць можна на вуліцы ці дзе ён ляжыць бяз патрэбы, як назбіраеце і вам будзе карысьць і чысьцей стане. — Падзяліце свой загончык на некалькі частак і пасейце сабя усяго, што любіце: некалькі зернят агуркоў, крыху салодзянькай морхвы, крыху цукровага гарошку (ай, як ён салодкі!) чырвонай радыскі, рэпкі, а пад самы плот пару зярнят сонешнікаў.

— Ведама ураджай ад вашай працы залежыць. Трэба старацца палоць, каб зямля была чыстая і мяккая, як пух, і трэба паліваць, калі дажджаў няма і зямля сухая.— Працы не шкадуйце, а затое будзеце мець столькі смачкых рэчаў і то *Вашых ўласных, ўласнай працай здабытых.* Падумайце сколькі будзе радасьці!

Найгоршы клопат гэта мусі будзе дастаць насеньня. —

— А можа мы Вам паможым?

Калі зьбярэцца группа дзяцей (дзяцей падпісчыкаў) чалавек 10-ць хаця б с 2-3 суседніх вёсак і прышле ў рэдакцыю ліст, што гэтыя дзеці хочуць залажыць сабя гародчыкі то рэдакцыя вышле ім бясплатна па крышачцы рознага насеньня.

У лісьце павініен быць сьпісак дзяцей: Імя, прозвішча і сколькі гадоў, і ліст падпісаны адным з бацькоў-падпісчыкаў „Б. Борці".

---

## Спрэчка ў гародзе

Рос у гародзе гарох. Стручкі таўстыя пасьпелі, і ў кожным стручку па некалькі каліў гароху. Растуць каліўцы і ўсё таўсьцеюць ды таўсьцеюць.

Паўзе гарох па дубчыках ды жэрдачках. Думае:

„Вось я вялікі які зрабіўся — далей за кожну гародніну бачу".

Паглядзеў згары на бурака, — бурак побач на градцы рос, — дый кажа:

— Эх ты, таўсьцюга, сядзіш у зямлі і сьвету белага ня бачыш, увесь, як сьвіньня тая, у чарназём зарыўся. А вось я — маё пасеньне гаспадар штогод увесну з гораду выпісвае. Некалькі соцен вёрст

еду я—то па чыгунцы, то на параходзе—у папяровым пакунчыку і надпіс на ім: салодкі гарошак.

Пакрыўдзіўся бурак, пачырванеў са злосьці ды паскардзіўся радысцы. Загарэлася радыска чырвоным руменцам ды паскардзілася рэдзьцы. Зьбялела рэдзька, як палатно, ад такой прыкрасьці. Паскардзілася цыбуля. Цыбуля, ледзь з градкі ня выскачыла. Перадала скаргу моркаўцы з пятрушкай, а пятрушка—капусьце з хрэнам, а хрэн — гурком з гарбузом.

Пачаўся на гародзе цэлы гармідар. Стары хрэн бурчыць. Капуста надзьмулася, уся гародніна крычыць, на гарох скардзіцца.

— Жыць з гарохам нельга, такі задзірака - бо зрабіўся, сябе лепшым за ўсіх лічыць. Усе вы, кажа, як сьвіньні ў зямлі закапаліся і нічога вакол сябе ня бачыце.

Тут гурок схамянуўся ды запішчаў цененькім галасочкам:

— Калі мяне жэрдачкай падперці, дык я таксама мо пачаў-бы ўгару расьці ня горш ад гароху!

Разявіў горла гарбуз, ды як загудзе так, груба на ўвесь гарод:

— Эй, гарох! Калі-б і мяне на жэрдачку, дык я, напэўна, і цябе з гуркамі перарос-бы!

А іншая гародніна лемантуе на ўсе галасы:

— Мы таксама шмат вёрст праехалі раней, чым увесну насеньне наша ў зямлю пасадзілі. Гаспадар нас таксама з гораду выпісваў.

Зарагатаў гарох на ўсё горла. Усе стручкі затрасьліся на ім ад сьмеху. Гукнуў.

— Эх, вы, дурны гарбуз ды зялёныя гуркі! Калі вас жордзінкамі падперці, дык вы-ж абарвяцеся ад свайго ўласнага цяжару ды разаб'ецеся на кавалачкі! Толькі я магу ў паветры вісець ды калыхацца. Усе вы занадта растаўсьцелі і ў гразі прызвычаіліся корпацца!

Загаласіў, захваляваўся ўвесь гародны народ. Крычаць усе разам:

— Не бяда, што на жэрдачках расьці ня можам! Насеньне наша таксама з гораду сюды ехала — усе мы таксама белы сьвет бачылі!

Засароміўся гарох. Ня ведае, што і казаць.

Усьцешыліся ўсе, што гарох перамаглі, ды хацелі ўжо кожны за сваю справу ўзяцца – расьці ў зямлі ды таўсьцець. Раптам чуюць крык глухі з-пад зямлі.

— Я вось больш за ўсіх вас езьдзіла ды сьвету пабачыла. Я — бульба. Мяне сюды з Амэрыкі прывязьлі· Цераз акіян ехала.

— Дурыца ты бульбяная!—засьмяяўся гарох. Знайшла чым хваліцца—з Амэрыкі-ж цябе ня кожны год возяць, а прадзедаў тваіх сто год таму назад прывязлі, толькі адзін раз! Ды з таго часу і вазіць кінулі — кожны гаспадар бульбу цэлы год мае, а ўвесну на кавалачкі рэжа ды ў зямлю садзіць замест насеньня. Сядзі лепш і ня рыпайся!

Пырснуў увесь гародны народ са сьмеху. Нават у хрэна, у старога хрэна, аж сьлёзы паказаліся на вачох.

Сьціхла бульба. Сорам зрабілася, што глупства сказала.

Пачала гародніна пакрыху сьціхаць ды сокі з зямлі ссаць. Раптам чуюць галасы з неба, адкуль—ніяк ня сьцямяць!

— Эх вы, гародныя сядуны! Калі вас у зашытых мяшках вазілі па чугунках, дык гэта яшчэ ня тое, што сьвет вы ўвесь пабачылі. Нічагутка вы з мяшкоў ня бачылі. Вось мы, дрэвы, народ вольны, нас ніхто не садзіў. Самі расьцём, дзе хочам, а насеньня нашага ніхто, ня возіць. Мы яго па паветру пускаем — глядзі вось!

Растапырылі хвоя ды елка луску на шышках і пусьцілі ў паветра крыластыя каліўцы. Хутка закруціліся тыя ў паветры ды палі на сярэдзіну гароду.

Аж вохнулі гародныя жыхары ад дзіва, але прыстаў тут да бяседы дмухавец, што на краю градкі рос.

— У мяне яшчэ далей палятуць хоць я малога росту, глядзеце!

(Канец будзе).

Камплекты „Беларускай Борці" за 1935 і 1936 г.г. можна атрымаць у Рэдакцыі. Цана 3 зл. Грошы можна перасылаць разрахунк. нераказам р-к № 34.



# Пытаньні і адказы

1. ПЫТАНЬНЕ: Ці кансэрваваньне яек у сумек, вапны, солі і воднага шкла пэўнае ці не?

*З. Лісоўская.*

АДКАЗ: Яйкі кансэрвуюцца або ў вапеннай вадзе, прыгатаванай з вапны і солі, або ў водным шкле. Адзін і другі спосаб уважаецца за добры. Але добрае пераховаваньне залежыць ня толькі ад добрага спосабу, але і ад якасьці яек. Яйкі перадусім павінны быць сьвежыя, ня мець больш як 14 дзён. Калі яйкі купляем, трэба іх пераглядзець пад сьвет. Найлепш выразаць у скрыначцы дзірку вялічыні і формы яйца і ў скрыначку паставіць лямпу, прылажыўшы яйку да дзірацы грубым канцом ў гару, выразна пабачым зьмест яйка. Сьвежае, здаровае яйко павінна быць у сярэдзіне сьветлае, бяз ніякіх плямаў і кружок паветра якнайменьшы. Пераглядаць пад сьвет трэба ў цёмным памяшчэньні.

Шалупіны яек да кансэрваваньня павінны быць цэлыя (не трэснуўшыя) і гладкія. Найлепшыя да кансэрваваньня яйкі знесяныя ў красавіку, траўні і да паловы чэрвеня.

2. ПЫТАНЬНЕ: Які вульлей найлепшы і якія павінны быць разьмеры вульля Дадана.

*У. Навіцкі.*

АДКАЗ: Для таго, хто ня прывык да іншых сыстэмаў, найбольш простым і лёгкім у працы будзе вульлей Дадант — з надстаўкамі. Больш падробна можаце даведацца аб гэтым у „Бел. Борці" №№ 5 і 6 1936 г. Які разьмер вульля Дадант Вілята падамо ў адным з наступных нумэроў.

3. ПЫТАНЬНЕ: Як найлепш выкарчаваць старую яблыню?

*В. Рабіза.*

АДКАЗ: Найлепш карчаваць дрэвы такім спосабам: Дрэва сякаць ня трэба, а кругом яго абкапаць як мага шырэй, падсеч карэньне, а пасьля прывязаць вяроўку за верх і цягнуць аж вывернецца разам з карэньнем.

4. ПЫТАНЬНЕ: Калі зьнімаць рафію з вачкаваных дрэў?

*В. Бабіза.*

АДКАЗ. Па 2 тыднях, ад часу ачкаваньня, калі пабачыце, што трошка алваліўся. а вока сьвежая і ядронае, дык лыка трэба крыху адпусьціць, каб не ўядалася ў дрэва, а зьняць у позьнюю восень.

5. ПЫТАНЬНЕ: Які шкоднік мог аб'есьці летам карані ў пікаваных дзічак і як вясьці з ім барацьбу?

АДКАЗ: З Вашага пытаньня даволі цяжка дайсьці, які шкоднік, але найхутчэй, што гэта, або лярвы хрушчоў, або *Туркач звычайны* (Gryllotalpa gryllotalpa). Аб

2-07254



хрушчох і барацьбе з імі і іх лярвамі знойдзеце артыкул у наступным нумары „Б. Борці“. Што да туркача, дык змагацца з ім можаце летам у такі спосаб: 1) адшуківаць іх гнёзды і раскопываць іх. Яечкі, выкінутыя на паверхню зямлі, вельмі хутка сохнуць і гінуць. 2) адшуківаць падзямельныя ходы і на іх дарозе (на вышыні гэтых ходаў) укопываць гаршчкі з гладкімі і простымі берагамі. Туркачы, поўзаючы ў сваіх ходах, упадаюць у гаршчкі і ня могуць з іх вылезьці. Пасьля пераглядаць гэтыя пасткі і нішчыць знойцзеныя шкоднікі. У адным з наступных нумароў нашай часопісі знойдзеце таксама больш дадзеных аб туркачы і барацьбе з імі.

## Паштовая скрынка

*Гр. Б. Рабіза.* Як бачыце зьмяшчаем. Пішыце больш і прысылайце.

*Гр. Піліпу Карпенюку.* Вашу карэспандэнцыю выкарыстаем да наступнага нумару. На пытаньне ў справе вузы мы Вам адказалі ў сваім часе лістоўна.

*Гр. З. Лісоўскай.* На вашае жаданьне стацьцю аб гадоўлі лёну зьмяшчаем і на гэту тэму будзем пісаць далей.

Гр. *Трыпусу Адаму.* У наступным нумары можна будзе зьмясьціць Вашу абвестку аб гадоўлі матак, пасколькі Вы сёлета будзеце яе вясьці. Цана абвесткі ў нас такая: цэлая старонка 40 зл., 1/2—22 зл., 1/6—8 зл., 1/9—8 зл., 1/8—6 зл. Дробныя абвесткі 3 зл. Чакаем адказу.

Гр. *У. Балушцы-Бігуну.* Карэспандэнцыю Вашу зьмяшчаем. У справе лекарства з пчалінага яду — „Forrapin“ зьвярнецеся ў Варшаву ў аптэку Гэсснэра яна павінна мецць. Цяпер пачынаюць рабіць падобныя сьродкі і ў нас — краёвыя. Але ці ёсьць ужо ў прадажы — ня ведаем.

Гр. *С. Лаўрыновічу.* У беларускай мове быў толькі адзін пчалярскі падручнік Я. Пачопкі, але ўжо разышоўся. Што да сыстэмы вульлёў, прачытайце адказ У. Навіцкаму ў аддзеле „Пытаньні і адказы“.

Гр. *У. Навіцкаму.* Спосабы зьмены матак паламо ў адным з наступных нумароў, бо цяпер няма мейсца.

Гр. *П. Талопіла.* Падпіску атрымалі. Дзякуем.

Гр. *Ул. Паляшуку. В. Герасімовічу, Я. Кавганку, М. Міханю*—пробны нумар высылаем.

Гр. *П. Семчуку.* Падпіску атрымалі. Дзякуем.

Гр. *Я. Грыц.* У канцы 1936 г. „Б. Борць“ не выходзіла. Высылаем камплект з 1936 г.

Гр. *Я. Клюпае.* Падпіску атрымалі. Дзякуем.

Гр. *П. Гапанёнку.* З прысланых Вамі 9 зл. 70 гр, 5 зл. залічаны на бягучую і залеглые складкі, а 4 зл. 70 гр. на Выдавецкі Фонд „Бел. Борці“. За ахвяру шчыра дзякуем.

Рэдагуе Рэдакцыйная калегія: Л. Войцікава, М. Манцэвіч, М. Караленка.
Адказны Рэдактар і Выдавец: Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк Вытворча-Гандлёвай Каапэратывы. Вільня, Троцкая вул. 7.

## Ад Выдавецтва

У папярэднім нумары мы прасілі нашых чытачоў аб урэгуляваньні залеглых складак і аб акуратнай прысылцы бягучых.

Шмат хто ўжо ўрэгуляваў свае даўгі, але шмат астаецца ашчэ ня ўрэгуляваных.

Яшчэ раз просім прысьпяшыць прысылку грошаў. Кожны чытач павінен добра разумець, што бяз грошаў ня можа выходзіць часапіс.

Дармавых чытачоў не павінна быць.

Грошы можна перасылаць разрахунковымі пераказамі (дарма) на рахунак № 34.


ЧЫТАЙЦЕ і ПАШЫРАЙЦЕ
беларускі месячнік пчалярства
і зелярства

**Беларуская Борць**

У сёл. годзе ўведзяны аддзелы па ўсіх галінах земляробскае гаспадаркі і культуры

ПАДПІСКА:

на год . . . . . . . . 2 зл.
на паўгода . . . . . . 1 зл.
Заграніду — удвая даражэй.

Падпішчыкам якія да 15-та траўня г. г. прышлюць гадавую складку і здабудуць ня менш як 2 новых чытачоў і прышлюць адначасна іх падпіску, будзе выслана ў прэмію цэнная кніжка.

Адрыс рэдакцыі:
**Wilno, ul. Królewska 3—8.**